А Б ' Е Д Н А Н Ь Н Е

№ 7/65 ЛЕНДАН КАСТРЫЧНІК 1956 ГОД. ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Г А Н Е Б Н А Я К А П І Т У Л Я Ц Ы Я

Яшчэ раз вялікія заходнія дзяржавы скапітулявалі перад бальшавікамі і на гэты раз - у ганебны спосаб. Апошняя капітуляцыя можа мець неаблічальныя пасьледствы для усяго некамуністычнага сьвету, бо-ж гэткай сваёй палітыкай заходнія дзяржавы у значнай меры падмацавалі бальшавікоў маральна у вачох усяго бліскага і сярэдняга Усходу, кампрамітуючы адначасна сябе дашчэнту.

Ня трэба было быць дыплёматам вялікіх дзяржаваў, каб ведаць, што Егіпецкі урад вынес сваю пастанову аб нацыяналізацыі Суэскага каналу пасьля апрабаты гэтага шагу Савецкім Саюзам. Для Захаду, такім чынам, заставаліся дзьве альтэрнатывы: або пагадзіцца з заіснаваўшым новым палажэньнем /тым болей, што і фармальна і маральна рацыя была па баку Егіпту/ ды з гонарам вытаргаваць сабе яшчэ ад Нассэра нейкія прывілеґіі, на што ён пры абнародаваньні пастановы выразна намякаў, або дабіцца сваё перамогі над Егіптам сілаю. Прыймаючы, аднак, пад увагу, што апошняя канцэпцыя пры сучасных абставінах /г.зн. пры наяўнасьці Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, да якой належаць усе зацікаўленыя краіны/ была нерэальна, заставалася пагадзіцца з дакананым фактам, каб не страціць свайго аўтарытэту ня толькі у вачох усяго арабскага сьвету, але і усіх народаў наагул.

Аднак, як бачым, так ня сталася. У замен спакойнага і разважнага падыходу да гэтай справы, заходнія дзяржавы гістэрычна пачалі кідацца ад аднэй канцэпцыі да другой, да мабілізацыі сваіх збройных сілаў уключна, каб урэшце скапітуляваць ганебна ды гэтым толькі узмоцніць пазіцыю савецкіх ды кітайскіх камуністаў, а так-жа даць большую надзею на перамогу усім тым паняволеным каляніяльным народам, вызвольны рух каторых зьвязвае у сучасны мамэнт цэлыя імпэрыяльныя арміі некаторых вялікіх дзяржаваў.

Мы разумеем, што капіталісты, заангажаваныя у Суэскай праблеме, маюць на мэце толькі свае матэрыяльныя інтарэсы і таму гатовы хапацца за кожную канцэпцыю, якая-б ратавала іх барышы нават тады, калі-б для гэтага трэба было-б ісьці па трупах нявінных людзей, але... дзяржаўныя рэпрэзэнтанты народаў павінны кіравацца зусім іншымі нормамі, выцякаючымі з абавязку вернай службы сваім народам і дзяржавам.

Здарылася проста нячуваная рэч, што дзяржаўныя мужы такіх магутных і фармальна дэмакратычных краінаў, як Амэрыка,

Англія і Францыя замест таго, каб спакойна шукаць разумнага, лёгічнага і рэальнага выхаду із створыўшагася палажэньня, пачалі, як дзеці, гульню у нейкія ілюзорычныя Таварыствы, якія апріорі асуджаны на няўдачу ды яшчэ большую кампраміТацыю. I усё гэта рабілася у той час, калі самі ініцыятары гэтае недарэчнае канцэпцыі разумелі усю яе нерэальнасьць і абсурдальнасьць, не гаворачы ужо аб прэсе, якая ад даўжэйшага часу зварочвала увагу ды няраз асьцярагала зацікаўленыя урады ад такога пляну.

Аналізуючы сучасныя падзеі і паводзіны прадстаўнікоў капіталістычных краінаў, з сумам прыходзіцца пагадзіцца з цьверджаньнем камуністаў аб "загніваньні" ды "раскладзе" капіталістычнага ладу, які ня здольны справіцца з сваім заданьнем кіраваньня грамадзка-дзяржаўным жыцьцём.

Усе высілкі паняволеных бальшавікамі народаў паказаць не камуністычнаму сьвету нялюдзкую сыстэму камуністычнае дыктатуры, паралізуюцца палітыкай прадстаўнікоў вялікіх заходніх дзяржаваў. I ці-ж могуць, у гэтых варунках, заходнія дзяржавы дамагацца ад бальшавікоў ліквідацыі дзікага тэрору у адносінах да падбітых імі народаў, калі у той самы час Французская Імпэрыя мабілізуе амаль усе свае збройныя сілы для барацьбы супроць вызвольнага руху Альжырцаў? Наколькі гэты вызвольны рух сярод падбітых Францыяй Афрыканскіх народаў спантанічны, натуральны і справядлівы, сьведчыць той факт, што у працягу некалькіх год імпэрыяльная французская армія з усімі навейшымі ведамі узбраеньня ня можа даць рады жменьцы Альжырскіх паўстанцаў!

Ды ня лепш стаіць справа і на Кіпру, дзе паводле афіцыяльных запэўненьняў "ёсьць толькі 50 тэрарыстаў, якія не карыстаюцца падтрымкай рэшты народу". I вось, гэтым 50 тэрарыстам ня можа даць рады у працягу даўжэйшага часу добра узброеная рэгулярная ангельская армія! За апошніх 18 месяцаў на Кіпру павешана, як падае ангельская прэса, 8 тэрарыстаў, а у тым самым часе тэрарысты забілі 52 і ранілі 300 ангельцаў! Ці-ж усе гэтыя факты не падкажуць заходнім дзяржавам неабходнасьць зьмяніць іх дасюлешнюю палітыку у адносінах да паняволеных імі народаў? Ці-ж за дэмакратычнаю фразэолёгіяй крыецца тая самая сыстэма, якою паслугоўваюцца бальшавікі, ды якая, як паказалі апошнія падзеі у СССР, стала небясьпечная нават для саміх камуністычных дыктатараў?!

Даўно пара заходнім дзяржавам паказаць прыклад справядлівага вырашэньня слушных дамаганьняў усіх паняволеных народаў і гэтым чэсна выканаць забавязаньні, прынятыя імі пры закладаньні Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў ды замацаваныя іхнімі подпісамі у Карце /Статуце/ гэтай арганізацыі!



# С. П.

## ЯКУБ КОЛАС

13 жніўня 1956 году у Менску памёр наш найвялікшы паэт і пісьменьнік ЯКУБ КОЛАС, пражыўшы амаль 74 гады.

Якуб Колас, якога сапраўднае прозьвішча - Кастусь Міцкевіч, нарадзіўся 3-га лістапада 1882 г. у беларускай сялянскай сям'і і па сканчэньні настаўніцкай сэмінарыі быў вучыцелем пачатковае школы.

Літаратурная творчасьць Коласа пачынаецца у 1900 гадох, а у 1906 годзе ён ужо друкуе свае вершы на балонках "Нашае Нівы".

Уся творчасьць Якуба Коласа, як паэты так і празаіка адзначаецца высокамастацкім апісаньнем прыроды і людзей. Ніводзін з нашых паэтаў і пісьменьнікаў так не фатаграфаваў словам вобразы Беларусі, як гэта рабіў Колас. Ягоныя высока мастацкія паэмы "Новая Зямля" і "Сымон Музыка" зьяўляюцца бяздэннымі пэрламі ня толькі творчасьці Коласа, але і усёй нашай літаратуры.

У сваёй творчасьці Колас шырака апісаў быт і жыцьцё беларускага сялянства ды паказаў вялікую колькасьць беларускіх праўдзівых тыпаў. Усе ягоныя творы прасякнены бязьмежнаю любоўю паэты да роднага краю і свайго народу.

У сувязі аднак з тым, што Коласу прыйшлося большую частку свайго творчага жыцьця пражыць пад бальшавіцкім тэрорам, творчасьць ягоная павінна быць падзелена на два галоўныя пэрыяды - да 1930 году і пасьля гэтага часу. Колас, як сапраўдны беларускі патрыёт, зразумела, быў нэгатыўна настаўлены да бальшавікоў, як акупантаў ягонага краю, які ён хацеў бачыць незалежным беларускім дзяржаўным арганізмам. Сваю варожасьць да маскоўскага акупанта ён выказваў у ваўсіх сваіх творах першага пэрыяду, перш адкрыта, а пазьней замаскавана пад рознымі сымбалямі і алегорыямі. Так напрыклад у вершы "Родныя малюнкі", напісаным у 1921 годзе, перамогу бальшавікоў на Беларусі разглядае як зьмену аднаго акупанта другім.

...Кавалі другія,
А ланцуг той самы-
Песьні усе старыя
Неаджытай гамы.

На падзел Беларусі Рыскім трактатам паміж палякамі і бальшавікамі паэт адказвае вершам "Беларускаму люду", у якім востра выступае супроць гвалту над беларускім народам і новае мяжы, якая падзяліла наш край.

Нас падзялілі - хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры,
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць.
Годзе тэй крыўды! У ногу з братамі
Пойдзем свой край вызваляць.

Гэткі патрыятычна-незалежніцкі дух творчасьці Коласа, зразумела, быў не да душы новаму акупанту, які у 1929-30 гадоў асабліва жорстка распраўляўся з т. зв. беларускім нацыяналізмам. Тысячы беларускае інтэлігэнцыі, паэтаў, пісьменьнікаў, лекараў, інжынераў у гэтых гадох былі фізычна зьнішчаны бальшавікамі. Колас што праўда уцалеў, але коштам вялічэзнай ахвяры. Стэрарызаваны маральна і зламаны духова, ён змушаны быў выракчыся свайго беларускага "я" ды стацца казённым бальшавіцкім паэтам - аўтарам шматлікіх, але адначасна і вельмі плыткіх панегірык бальшавіцкай сыстэме і камуністычнай партыі. Але гэткі лёс спаткаў не аднаго Коласа. Такую-ж казённую ролю змушаны былі выконваць і іншыя паэты і пісьменьнікі, якія цудам уцалелі ад бальшавіцкіх крывавых чыстак трыццатых год.

Сёньня, аднак, з сумам мусім адзначыць, што 13-га жніўня 1956 году перастала біцца гарачае сэрца - вялікага сына беларускага народу, верна служыўшага свайму народу, палажыўшаму вялічэзныя заслугі для беларускай нацыянальнай літаратуры ды мужна змагаўшагася супроць ворагаў Беларусі, пакуль хапала ягоных сілаў. Гэткім ён быў для нас і застанецца назаўсёды.

А сьветлая памяць аб ім будзе вечна жыць у нашых сэрцах і сэрцах удзячных будучых пакаленьняў.

Вечная памяць Табе,- дастойны сыне вялікага беларускага народу!

- 0 -

Бо я цьвёрда веру у тое,
Што наш засеў у полі дзікім
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць усё злое,
Усё няшчасьце векавое.

Я. К.

На актуальныя беларускія тэмы

Юры Сабалеўскі

## ПРЫЧЫНЫ І КРЫНІЦЫ БАРАЦЬБЫ ПАМІЖ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДАЙ І КРЫВІЦЫЗМАМ

/Дасьледы, факты і дакумэнты/

У некатарых асяродзьдзях новапрыбылай беларускай іміграцыі у сучасны мамэнт узьнята у даволі ажыўленай форме пытаньне аб зьліквідаваньні дасюлешняга падзелу у рэпрэзэнтацыі беларускіх спраў на вонкі і аб утварэньні на будучыню адзінага, для гэтай мэты агульна-беларускага палітычнага цэнтру. Узьняўшыя гэтае пытаньне згары засьцярагаюцца, што калі ня дойдзе да зьліцьця, дык абедзьве стараны застануцца на сваіх дасюлешніх палітычных і ідэалёгічных пазыцыях.

Ініцыятыва гэтага асаблівага "аб'яднаньня" выйшла з загадваючага цэнтра крывіцызму і знайшла некатары водгук у асяродзьдзі вызнавальнікаў ідэі Беларускай Цэнтральнай Рады /у скароце будзем называць ініцыяламі Б.Ц.Р./. На гэты раз нябольш двух прыхільнікаў Б.Ц.Р. гатовы бачыць у гэтым крывіцкім ходзе спрыяльную нагоду аздаравіць нашае беларускае жыцьцё. Спалучэньне высілкаў на плошчы супольнай рэпрэзэнтацыі, на іх думку, надасьць у вачох кіруючых палітычных дзейнікаў Амэрыкі ацэнку саліднасьці у пастаноўцы намі беларускай палітычнай праблемы, і тым павялічыць большую зацікаўленасьць гэтай праблемай.

Пачынаючы гэтую акцыю, крывічы стараюцца пераканаць,што нацыянальна-палітычная аўтарытэтнасьць у вызнаваньні ідэі беларускай незалежнасьці знайходзіцца быццам выключна па старане крывіцызму, а сваю прапанову аб'яднаньня яны робяць толькі у імя, быццам, нацыянальнага дабра.

Настроі "аб'яднаньня" у радох Б.Ц.Р. ураблаюцца этапамі: Спачатку шляхам паадзіночных спатканьняў, з разьлікам на падатлівасьць субяседніка, а калі, па іх абліченьнях, колькасьць "усьвядомленых" дастатковая, комміваяжоры крывіцызму склікаюць груповыя сходкі і на іх ставяць ужо пытаньне аб рэалізацыі аб'яднаньня. Навонкі, гэтыя сходкі насьвятляюцца, як с х о д ы, быццам, вядучага актыву з асяродзьдзя Б.Ц.Р., але у сьвятле нагляданых вельмі празрыстых фактаў, сходкі гэтыя фактычна элемэнтарнага прынцыпу мантуюцца крывіцкім падборам ды вельмі грэшаць адсутнасьцяй мінімальнай саліднасьці, асабліва - у пастаноўцы пытаньняў і спосабах вядзеньня нарадаў. Кворум на гэтых сходках плыўкі, склад удзельнікаў мяняецца прыходам і адыходам, прабег абрадаў недысцыплінаваны, мітынговы і хаатычны. Ход - на увядзень-

не закалоту з сыстэмы "паглыбленьня" /памятнай пары 1917-1918 гадоў/ "Першай Свабоды".

З права "адчыненых дзьвярэй" скарыстаўся і я некалькі разоў. /Сходкі адбываюцца у Саўт Рывэр'ы/. Калі мяне спыталіся аб маіх адносінах да узьнятага пытаньня, дык я, выходзячы з заложаньня вывучэньня крыніцаў крывіцызму, катэгарычна выключыў нават набліжэньне да пытаньня аб аб'еднаньні і супрацоўніцтве з арганізаваным крывіцызмам, бо у маім уняцьці крывіцызм знайходзіцца па-за зьместам палітычнага партнёрства.

Ход крывіцызму - агентурна-правакацыйны, скіраваны выключна на спараліжаваньне беларускага вызвольнага высілку. Арганізаваны крывіцызм дзеець у сыстэме акупантскіх заданьняў, а беларускім патрыятызмам і ідэяю нашай дзяржаўнай незалежнасьці крывіцызм толькі маскуе свой здрадніцкі намер. У закрыты спосаб, свае погляды на справу аб'еднаньня я выказаў у больш канкрэтнай і празрыстай форме, але, калі пачалі нарастаць да мяне звароты у абыход дазволу старшыні сходкі, каб не паглыбляць хаосу, я сход "адчыненых дзьвярэй" пакінуў.

Занятае мною становішча без рэха не засталося. Ініцыятары аб'еднаньня задакумэнтавалі супроць мяне свой пратэст, кваліфікуючы маё выступленьне антыбеларускім і развуральным, падкопываючым падваліны вызвольнага змаганьня. Хоць абсурдальна і нелягічна, але прыймаючы пад увагу, што абвінавачваньне - з катэгорыі цяжкіх, я павінен адказаць на яго адпаведным аргумэнтаваньнем, да чаго і падыходжу з некаторым аддаленьнем ад зьместа сёняшняга пытаньня аб аб'еднаньні.

Аб агэнтурнасьці крывіцызму пісалася нямала і сёньня застаецца мне толькі падсумаваць усё ды увесьці некаторыя новапаўсталыя дадзеныя, якія падмацоўваюць папярэднія. У досьлед палітычнага колеру рэжысэры агентурнасьці крывіцызму асабліва заглыбляцца ня буду. Кожная акупацыя ёсьць акупацыяй - актам паняволеньня і эксплуатацыі. Падыходы у намерах акупацыі сёньня вельмі часта праводзяцца для вока у адным акрэсьленым палітычным афармленьні, а у закулісах сапраўдным маторам зьяўляецца зусім іншае палітычнае заложаньне.

Часам гэта праводзіцца у спалучаньні самых аддаленых і праграмова камбінацыйна супроцлежных, але аб'еднаных супольнымі акупантскімі карысьцямі. Для недасьведчанага вока разабрацца у гэтых сплётах даволі цяжка. Бальшыня успрыймае назіранае у поўнай разцягласьці "яснасьці". А якраз таго, што пятля палітычнага хода, як сільлё на сініцу прыцярушваецца "канапелькамі" і не заўважвае. Калі крывіцызм і гаворыць аб нацыянальнай і дзяржаўнай беларускай незалежнасьці, дык гэта яшчэ мала каб даверыць яму беларускія ка-

штоўнасьці. Галоўнае пытаньне - прыглядзецца, што ён робіць, якімі срэдствамі і мэтадамі паслугоўваецца ды у спалучэньні якіх сілаў дзейнічае? Тады толькі можна рабіць адпаведныя высновы і адчыняць, ці зачыняць дзьверы перад палітычнымі яму крэдытаваньнямі верыць і даваяраць, або гнаць проч ад сябе і дэмаскаваць шантаж і здраду.

Вось за гэтую цяжкую і адказную працу сёньня я і бяруся, улічваючы ў змаганьні з крывіцызмам ягонае больштае узбраеньне, брутальнасьць наступу ды дакладна змантаваныя і замаскаваныя закулісы, якімі часта карыстаецца для стаўляньня розных перашкодаў.

Мяне гэта аднак не адстрашвае і я з дозаю пэўнай адвагі прайдуся па дарогах і сьцежках манеўраваньня крывіцызму, каб паказаць ягонае сапраўднае палітычнае аблічча.

/Працяг будзе/

\- О -

Я. Колас

## Д З Е В Ы ?

Быў у нас хаўрус,
   Крэпка зьвязаны,
Дружбай моцнаю
   Падпяразаны.

Жыў ён думкамі
   I надзеямі
Сьмела у бой ісьці
   З ліхадзеямі,

З ноччу цёмнаю,
   Беспрасьветнаю,
З доляй горкаю,
   Няпрыветнаю,

Каб расчынен быў
   Сьвет людзкім вачам,
Каб жылося лепш,
   Весялей людзям,

Каб ярэм'і іх
   Былі зломаны,-
Крэпкі быў саюз,
   Дружбай скованы.

Песьні вольныя
   Разьліваліся,
Горы, лес, лугі
   Адклікаліся,

Ды завыў, загуў
   Вецер з поўначы,
Дзьмухнуў холадам
   I пагрозаю.

Усё схавалася,
   Затаілася,
Да зямлі ніжэй
   Нахілілася.

Усё растрос-разьнёс,
   Як мятлою зьмёў,
Ня мінуў і вас
   Ён, маіх сяброў.

Распаўзьліся вы,
   Пахаваліся,
I ад думак сваіх
   Адцураліся.

З таго часу я
   Адзін смучуся,
I ніяк я вас
   Не дакліічуся!

Юры Сабалеўскі

## БЕЛАРУСКАЯ СЯЛЯНСКАЯ - РАБОТНІЦКАЯ ГРАМАДА

/Працяг, глядзі пачатак "Аб'еднаньне" №4/62/;№5/63/;№6/64/

### Пасьля Рыжскага Трактату.

Бальшавіцка-польская вайна скончылася і польская дзяржаўнасьць пачала асядаць на свае фундамэнты. Вяшчальнікі польскага дэмакратызму і сацыялізму - адказныя работнікі ППС /Польска Партыя Соцыялістычна/ на чале з Марачэўскім адходзяць у цень і на месца ППС прыходзіць абшарнік са сваімі абшарніцкімі устаноўкамі, з якімі не патрабуе крыцца.

Польскі каталіцкі клер са сваімі вернікамі у поўным послуху да плянаў абшарніцкай дзяржаўнасьці. Адразу выплывае двуліцовасьць палітыкі: навонкі канстатуцыйнасьць і шырокі, нібыта, дэмакратызм, а ў практыцы - дыктатура абшарніцкае кляса, адміністрацыйны і паліцыйны тэрор, імпэрыялізм і актыўная барацьба супроць няпольскіх народаў, у межах Польскай дзяржавы. Стасавальная дактрына: Польшча для палякаў і для каталікоў, па-за гэтым - нахіляньне сродкамі і сіламі дзяржавы, а супраціў ідзе на вынішчэньне.

У гэтым часе ізноў спатыкаем Ваявудзскага, але ужо уцывільнай вопратцы у ролі палітычнага дзеяча, з вельмі радыкальнымі псў-марксістоўскімі поглядамі і у гэтым напрамку дзейнага актыўнага сябры нскаторых польскіх партыяў і арганізацыяў, але, аднача сна вызнаючага непахісна аўтарытэт Пілсудскага.

Ваявудзскі прымае удзел у выбарах да першага Сойму. Аб дзейнасьці яго з тае пары нічога ня ведаю, як ня ведаю аб кантактах пасьля першага Сойму і падрыхтоўкі выбараў у другі Сойм - кадэнцыі 1922 - 1927. З захаваўшыхся у памяці расказаў, Ваявудзскі меў ажыўлены кантакт з Антонам Луцкевічам.

У кадэнцыі другога сойму я з Ваявудзскім спатыкаюся пасьля майго звальненьня з Лукішак у 1926 г. Што праўда, я асабіста ня меў ахвоты з ім спатыкацца, але настаялі на гэтым сябры, паясьняючы, што Ваявудзскі зьяўляецца выдучаю асобаю апазыцыі у Сойме і палітычным дараднікам у тактыцы няпольскіх партыяў і груповак. Нацыянальны беларускі Соймавы клюб у адносінах да Ваявудзскага настаўлены быў нэгатыўна, за тое Тарашкевіч поўнасьцю паддаўся уплывам Ваявудзскага і стала адбываў з ім закрытыя канфэрэнцыі.

Масква у той час маняўравала і, нібыта, перабудоўвала сваю і палітыку і эканоміку, вярбуючы для сябе сымпатыі па лініі НЭП-у /Новая Экономічэская Політика/, ладжаньнем

розных экскурсіяў. Ваявудзскі у гэтых пытаньнях быў сваім чалавекам для Масквы, а таксама быў у кантактах і з Англіяй цераз лідэра работніцкага руху - Магданальда. Тое самае можна было бачыць у шырокіх яго кантактах з Францыяй. Польскі партыі у адносінах да Ваявудзскага захоўвалі поўнае маўчаньне. Час ад часу Ваявудзскі зьяўляўся на пашыраныя нашыя сходы нас з украінцамі і жыдамі, прыносячы, нібыта сакрэтныя весткі з акружэньня Пілсудскага і ягоных плянаваньнях блізкага пагрому нацыяналістычнае улады польскай рэакцыі.

Трэба прызнаць, што Ваявудзскі мог пакідаць па сабе уражаньне. Палітычная атмасфэра была насычана зусім магчымым зьяўленьнем на актыўным палітычным гарызонце Пілсудскага, а тым самым, нібыта, зьмены адносінаў да беларусаў і украінцаў. Па сутнасьці тады была поўная дэз'арентацыя і палітычная невырабленасьць бальшыні паслоў Другога Сойму. Ня усе пытаньні польскай нутраной палітыкі былі залежны толькі ад польскіх палітычных сілаў.

У пляне Вэрсаля Польшча была прэдугледжана на нясеньне ролі высуненага фор-поста інтарэсаў палітыкі Англіі і Францыі супроць, магчымага у прышласьці наступу на іх пасьля залечаньня атрыманых ранаў, Саветаў і Нямеччыны; і у гэтай ролі Польшча вымагала адпаведнага заагледжываньня у матар'яльныя сродкі і мець у сябе больш разьвязаныя рукі для нутраное палітыкі. Рознаякія замежныя экспэрты і дараднікі, крэдытуючых Польшчу дзяржаваў накідвалі ёй лінію " паводзін", з якімі Польшча лічылася, чарпаючы з гэтага немалыя даходы. Англія самастойна сачыла за настроямі у Польшчы, як беларускімі, так і украінскімі. Многія спасьцярогі сваёй разьведкі пераказвала польскай адміністрацыі да паліцыйных і пракурорскіх афармленьняў.

Пры судавых актах палітычных працэсаў знаходзіўся "закрыты" матэр'ял, які не фігураваў на працэсе. Сабраныя былі там характэрыстыкі і дадзеныя сачэньня за падсуднымі. Па многіх палітычных зборных працэсах, пераважна з Палесься, інфармацыі траплялі у пракуратуру і галоўную паліцыю у Варшаве, пасрэдна цераз цэнтр разьведкі у Англіі ад лясных гандлёвых ангельскіх фірмаў.

У маёй першай справе, дзе сьледствам было абнята - 1385 асобаў, першая бачына актаў і распачынаецца тым, што уступны матэр'ял аб прыгатаваньні паўстаньня на Беларусі атрыманы Галоўнаю Камандантураю Дзяржаўнай Паліцыі ад ангельскага галоўнага штаба палітычнай разьведкі. У ангельскай інфармацыі быў сьпісак западазроных чаловых асобаў.

У часе выбараў у польскі Сойм 1922 г. польская сацыялістычная партыя - ППС і радыкальнае "Вызваленьне" адцягнулі да сябе некаторыя беларускія галасы. Па сьпісках ППС на Беларусі прайшлі палякі /Пінск/ і на гэтым іх кантакт з беларусамі скончыўся. Калі галасаваўшыя за іх беларусы пасы-

лалі у Сойм сваіх хадакоў з просьбамі аб абароне супроць неканстытуцыйнага паступаньня польскай адміністрацыі на мейсцы, то іх ППС-оўскія паслы папросту ня прыймалі і не хацелі дэманстрацыйна спатыкацца. Са сваімі выбаршчыкамі па "Вызваленьню" прайшлі беларусы - каталікі.прапольскай палітычнай арыентацыі. На тэрыторыі Сойму адчулі яны свае разыходжаньне і адсутнасьць супольнае мовы з польскімі палітычнымі дзейнікамі; былі гатовы уключыцца у склад беларускага пасольскага клюбу./Балін, Шакун і Шанель, на асаблівую увагу заслугоўвае Балін/.

Ваявудзскі падтрымліваў іх выхад з польскай палітычнай плятформы, але адсоўваў праект утварэньня разам з іншымі апазыцыйнерамі палякамі /Др. Фідаркевіч і Бонн/ " Незалежнай Партыі Хлопскай" у афармленьні польскім, але на плятформе поўнага унезалежненьня палітыкі, як Украіны, так і Беларусі. Партыя павінна была разгарнуць дзейнасьць усьвядомленьня новай польскай палітыкі сярод каталіцкага асяродзьдзя і будаваць давер да "Новай Польшчы" у іх выданьні.

Ходы Ваявудзскага прыкрываліся распаўсюджываньнем ім чутак, што за такую тактыку стаіць Пілсудскі і на прышласьць, калі ён без сумліву прыйдзе да улады, партыя атрымае шырокія магчымасьці дзеяньня, што будзе карысным і для беларусаў і для украінцаў і для палякаў, якія імкнуцца вызваліцца ад прыгнёту сваіх-жа абшарнікаў, капіталістых і рэакцыйнага каталіцкага клеру.

Якая была у Ваявудзскага увязка з Тарашкевічам, па гэтаму пытаньню я ня ведаю, але яна была. Трэба думаць, што прыхільная. Характэрна, што з Соймавай трыбуны Ваявудзскі ніколі не выступаў, але не памятаю выпадку, каб якое небудзь паважнейшае пытаньне было ім прапушчана. Ня усё і не заўсёды яму гэта удавалася, але многае - так. З'арыентавацца у плянах Ваявудзскага было цяжка, спатыкаліся узаемавыключэньні і супярэчнасьці. Пасол Рагуля бачыў у гэтым хітры ход правакатара і здрадніка.

Мой першы выступ у Сойме у справе Грамады запісаны у стэнаграфічнай справаздачы 3II паседжаньня 25.I.1927 г. на бачыне CCCXI/5.

Высьвятленьне ролі Ваявудзскага, як паліцыйнага агента, падала тады газэта "Глос Праўды" і на 314 паседжаньні Сойму 28 Студзеня 1927 г. справу рэфэраваў Пленуму пасол Понятоўскі. В-Прэмьер Бартэль, спасылаючыся на урадавыя дакумэнты, падцьвердзіў, што Ваявудзскі зьяўляецца платным урадавым агентам польскай паліцыйнай разьведкі.

На працэсе маршалкоўскага суду дапытаны былі сьведкі з боку урадавых інстытуцый і прагледжаны прадстаўленыя урадам дакумэнты, і суд прыйшоў да высnаву, што Ваявудзскі знайходзіўся на службе 2-га Аддзелу Генеральнага Штабу/разведка/, у прызначэньні сачэньня за беларускім рухам і беларускімі пасламі Сойму. Атрымліваў за гэта паборы і зва-

рот выдаткаў на утрыманьне сваіх пад-агентаў. Справа прадстаўлена Пленуму 327 паседжаньне 1927 г. і запісана на бачыне СССXXУІІ/3-7.

Выдача паслоў: Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Валошына, Мятлы і Галавача адбылася 4-га сакавіка 1927 г. і запісана у справаздачы на бачыні СССXУІІ/107.

Справаздачы за гэта час знайходзяцца у Публічнай Цэнтральнай Бібліятэцы Нью Йорку - Аддзел газэт і журналаў пры 137 Вэст, 25 Стр. пад знакам: зорка і лацінскае 3000.

Палітычнае жыцьцё Польшчы працякала хаотычна. На тэрыторыі Сойму змагаліся 22 палітычныя партыі, але у адносінах да беларускага пытаньня усе яны ішлі адным фронтам на яго зьнішчэньне і падпарадкаваньне усіх праяваў нашай апрычонасьці польскаму вядучаму палітычнаму і эканамічнаму курсу. Беларусь павінна была стацца каленіяй польскай мэтраполіі, а найменьшы наш праяў унезалежненьня - нішчыўся, як нібыта, здрада польскай дзяржаўнасьці. Фармальны бок такіх абвінавачваньняў, польскіх палітыкаў не цікавіў і з гэтым польскія дзейнікі ня крыліся. Польскі Прэмьер - Міністар Скульскі на жалабу беларускіх паслоў аб стасаваным урадам ціску беларускага жыцьця, з трыбуны Сойму заявіў, што недалёкі той час, калі у выніку польскага змаганьня за свае дзяржаўныя інтэрэсы, усіх беларусаў у Польшчы цераз 50 год ня можна будзе знайсьці у дзень з сьвечкаю. Фактычна у Польшчы была адрэстаўравана старая фэадальна-магнацкая самаволя.

Вэрсальскі Трактат у 1920 г. у адносінах да Польшчы ня меў намеру выяўленьня гістарычнае справядлівасьці узнаўленьня польскай дзяржаўнасьці на яе разабранай немцамі, аўстрыякамі і расейцамі тэрыторыях. Вэрсальскі Трактат бачыў, што вайна 1914-1920 г.г. ня скончана, адбываецца толькі перэрва у гэтых падзеях і да збройнага голасу, як неадзоўнасьць, прыдуць у першую чаргу немцы, а потым і бальшавікі, а таму яны, у прадбачаньні гэтых неуніккнёных падзеяў, павінны быць пад чуйным наглядам і у першую фазу актывізацыі - сьмела паустрыманы крывёю і рукою найбольш загрожаным у беспасрэднім суседстві - Польшчаю, а самым пасьпець змабілізавацца для большае акцыі супраціву.

Паводле гэтага пляну, Польшча павінна стацца боездольнаю. На падкармленьне польскай дзяржаўнай касы, прывозджывалася да польскай тэрыторыі, на каленіяльных эксплёататыўных падставах значная частка Беларусі і Украіны. Палітычныя нутраныя няўвязкі у Польшчы непакоілі яе апякуноў - галоўным чынам Францыю, з гледзішча здольнасьці нясеньня Польшчаю службы інтэрэсам правадыроў Вэрсаля. Польская дыплёмацыя палітычныя неўвязкі у сябе дома тлумачыла інтрыганствам звонку "Крэсув", як беларуска-украінскіх, так і нямецкіх, ды жадала вольнай рукі у справах нутранное палітыкі і прыдзелу Польшчы пазыкаў з міжнароднага банку.

Каб рабіць большае уражаньне на распарадчыкаў банкамі, польская прэса і дыплямацыя падымалі сэзонныя акцыі у раздмухваньні непакою за свае граніцы і падаваньнем да ведама /у алярмуючым зьмесьце/ аб "выкрыцьці" падрыўных акцыяў ці то беларускіх, ці то украінскіх у той час, калі вельмі часта у гэтым напрамку працавалі па заданьням іх нанятыя правакатары, а у дзяржаўных польскіх друкарнях укладаліся праклямацыі пераважна камуністычнага зьместу, якія масова друкаваліся і раскідваліся паліцыйнымі агентамі у часе выбарчых кампаній.

Урадавыя дзейнікі на падставе "дакумэнтальных" доказаў "перасякалі" праступствы і зацiскалі праявы грамадзкага жыцьця. У выніку гэтага усе нашыя жалабы на недатрыманьне Польшчаю канстытуцыйных гарантый, палітыкі Лігі Нацыяў пакідалі без найменшай увагі. Нашая апазыцыя на зачэпную акцыю польскага ураду адказвала пасільнаю рэакцыяю і барацьба узмагалася.

Перавага сілаў, зразумела, была па старане польскіх урадавых дзейнікаў і з кожным годам сыстэма адміністрацыйна-паліцыйнага уціску набірала на сіле. Намеры польскай каленіяльнай сыстэмы у адносінах да нашага жыцьця былі у сваім залажаньні пакрэўны намерам ваеннага камунізму бальшавікоў гатовы былі ababраць сабе дарогу конкістадораў і таму толькі былі ад іх гуманейшымі, што польскі намер не пачуваўся на сілах да зрэалізаваньня сваіх ідэолёгічных плянаў.

Калі Прэмьер Міністар Скульскі на нашыя пратэсты адказаў, што на працягу 50 гадоў ад нас, больш трох мільёнаў беларускага народу, нікога не пазастанецца у Польшчы, то гэты ілюструючы зварот ачольваючай дзяржаву асобы гаварыў без аглядак на уплянаваную і вызнаваную сыстэму нашага вынарадаўленьня і вынішчэньня.

Гэтымі словамі Скульскага фактычна і адчытана была нам стасавальная закрытая польская "канстытуцыя" для "Крэсув Всходніх". Заканадаўчыя палаты - Сойм і Сэнат у сваім складзе станавілі бальшыню і, у зьмесьці Скульскіх стаялі на варце будаваньня "Моцарствовае Польшчы", а у фактычным стане адміністраваньня "Крэсамі" бачылі дарогу да зрэалізаваньня агульна-нацыянальных польскіх пастулятаў, надаючы ім на дадатак, характар "культуральнай місыйнасьці на Усходзе".

Увесь польскі дзяржаўны апарат, пачынаючы ад Прэзыдэнта і канчаючы падмятайламі касьцельных і войтаўскіх панадворкаў, на пытаньні пэрспэктыўнай польскай дзяржаўнасьці, пазіралі на рэчы у пераломе акуляраў Скульскага.

Польская дзяржаўная дыктатура тым розьнілася ад іншых дыктатураў, што суседнія дыктатуры існавалі улегалізавана і адкрыта, нават і абвешчываліся у зьмесьці распараджэнь-

няў, за тое польская дыктатура была прыцярушана канстытуцыяю і дзейнічала "у чыстых рукавічках" стараючыся не пакідаць па сабе сьлядоў. Замятаньне сьлядоў па сваїх злачынах увайходзіла у зьмест службова-дзяржаўна-- патрыятычнай службы і служыла падставаю у расцэнках службовага авансу.

На увесь сьвет прэса разьнясла праўдзівыя весткі аб даконваемых на Украіне пад Польшчаю пэрыядычных "пацыфікацыях" сродкамі дзяржаўнага і паліцыйнага апарату. Пагромы адбываліся сярод белага дня на вачах масавых зборышч. Безсаромліва накідвалі "патрыёты" у выбарчыя скрынкі бюлютэні сваіх кандыдатаў і выбіралі адтуль для сябе неадпаведныя. Удаводнівалася паходжаньне раскіданых праклямацыі антыдзяржаўнага зьместу з урадавых друкарняў, для мэтаў правакацыйных, каб сарваць выбары і назначыць свайго на становішча камісара.

Яшчэ у сьвежай нашай памяці ёсьць арганізаваны кацэт у Картуз-Бярозе для "нелёяльных", дзе паводле пагляду павятавага Старасты, кіямі па рэбрах стасавалася сыстэма "патрыятычнага перавыховываньня беларуса на "сумленнэго обывтэля". У дадатку да кія былі стасаваны рознага роду маральныя зьдзекі. На усе звароты і жалабы урадавая адміністрацыя, Пракуратура, Суд і нацыяналістычная прэса адказвалі , што гэта няпраўда, неудаводнена ні сьведкамі, ні дакумэнтамі... а пасьля таго распачыналася нагонка за "вымыслы" і абразы службоўцаў.

Трэба было дзівіцца безстыднасьці судовых працэсаў, дзе складаліся ілжывыя сьведчаньні усякага наёмнага зброду і залічваліся як доказы на цяжкія прысуды.

Калі у Вілейскім павеце вёска талакою пасеяла поле заарыштаваных і засуджаных ды сабрала грошы на абутак і вопратку дзецям, то пракуратура спрэпаравала абвінавачваньне супроць аратых і зборшчыкаў, а суд прысудзіў іх на чатыры гады бьщцам за тое, што яны належалі да бальшавіцкага "Мопру"/Міжнародная Арганізацыя Дапамогі Палітычным/. Памеры гэтае працы не дазваляюць прадставіць нашай падмене ілюстрацыі з ганебнага паступаньня палякаў супроць сьведамага беларуса і я таму абмяжоўваюся толькі да некатарых абагульненьняў і характэрыстыкаў.

Шмат хто з дзеячоў гэтае польскае дзяржаўнае "канстытуцыі" для "Крэсув Всходніх" знайходзіцца сярод нас на эміграцыі, шмат хто сярод іх укладаў "пшэпісы" для сваіх умундураваных "палкароў" у Картуз Бярозе, дзе нашаму Сэнатару Багдановічу на "сьнядане, як дане пербшэ" давалі порцыю кіеў і застаўлялі на "чвораках" бегаць і выкрыківаць на сябе зларэчча.

Факты ведамыя усім, але не нацыяналістычна настаўленым палякам і, калі ім гэта выстаўляецца, выракаюцца і тлумачацца фальшыва, што у першыню аб гэтым чуюць, хоць самі-ж

гэтую "канстытуцыю для Крэсув" і укладалі і выконвалі./Вока-зувкі практычнэ/. Пад акорд картуз-бярозаускага "канстыту-цыйнага" кія і захаванага сакрэта "таемнічай скшынкі выборчай", Польшча была гатова сьвяткаваць сваю перамогу над сваім нутраным ворагам і на лаве паслоў ад Беларусі засядаў кароткі час адзіны "пожондны з Крэсув, пэлнёнцы обовёнзкі посла для бялорусінув", а потым і яго не стала. У больш цынічным выданьні красавалася адна асоба і у Сэнаце для вонкавае дэкарацыі аб удзеле беларусаў у "выбарах".

Адсюль наказам для нас было у апісаную пару, калі фактычная "канстытуцыйнасьць" Польшчы поўнасьцю выявілася і пачалася стабілізавацца, кінуць высілкі шуканьня палітычнага спаўжыцьця з палякамі у выкіненай нам Вэрсалем прымусовай польскай дзяржаўнасьці, шукаць выхаду па-за тэарэтычнаю, а больш па-за практычна-стасавальнаю "канстытуцыяю" Польшчы. Праанілізаваўшы усе абставіны прабегу прац польскага дзяржаўнага апарата, мы прышлі да высnаву, што Польшча, якая ёсьць сяньня у абшарніцкім выданьні, ніколі не перабудуецца на іншую, праўдзіва-канстытуцыйную, таму мы неабавязаны яе падтрымліваць, а наадварот, перашкаджаць ёй у разбудове падобнай сыстэмы дзяржаўнасьці. У сувязі з гэтым, Беларуска Сялянска-Работніцкая Грамада пастанавіла заняць лінію прынцыповай апазыцыі, выключаючы абсалютна канстытуцыйнае супрацоўніцтва з польскімі палітычнымі дзейнікамі.

Палітычная добрасумленнасьць наказвае мне пры гэтым сказаць, што гэты шлях значна раней сфармулаваў Базыл Рагуля і удаводніў уласным паступаваньнем ягоную актуальнасьць.

Многае варажыла, што Рагуля стане на чале дзейнічаючай беларускай палітыкі, на гэта Рагуля меў усе дадзеныя,і якая шкода, што так не сталася.

Інтрыга Ваявудзскага, узмоцненая кароткаузрочнасьцю Тарашкевіча, зьбіла з абабранага палітычнага напрамку Рагулю, а пры дапамозе Антона Луцкевіча, беларускі рух быў уведзены у зусім неадпаведнае рэчышча.

Я ім тут на гэтым месцы не судзьдзя. Шкада, што так сталася! Шкада, што так глыбока памыліліся і не распазналі бальшавіцкае правакацыі і за гэта многія за свой давер заплацілі у казаматах ЧЭКА і НКВД сваімі галовамі, сьвята вызнаючы пры гэтым барацьбу за зрэалізаваньне Беларускай Дзяржаўнай Незалежнасьці.

/Працяг будзе/

§§ ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ "АБ'ЕДНАНЬНЕ" §§

---

## "СПАДАР" ЦІ "ГАСПАДАР"?

Да мяне зьвярнулася рэдакцыя "Аб'еднаньня" з запытаньнем які правільна ужываць зварот у гутарцы ці карэспадэнцыі з знаёмымі ці мала знаёмымі людзьмі: "Спадар" ці "Гаспадар"?

З майго пункту гледжаньня адказ на гэтае пытаньне павінен быць нэгатыўны так у першым, як і другім выпадку з наступных меркаваньняў:

І. Слова "спадар" у беларускай мове няма. Ня знае гэтага слова ані слоўны запас народнае беларускае мовы, ані клясычная беларуская літаратура. Ня знае такога слова і старадаўная беларуская пісьменнасьць. Ды наагул гэтае да 1941 году нідзе у беларускай літаратуры не ужывалася. Гэта чыста штучнае слова, якое зьяўляецца прадуктам бязглуздае фантазіі Янкі Станкевіча, якому і далі з гэтае прычыны мянюшку "спадар". Яго пляменьнік Станіслаў Станкевіч у тым-жа часе меў мянюшку "спадаронак"- слова, узятае таксама з лексікону таго-ж Янкі Станкевіча. Слова "спадар" зьяўляецца фактычна скарочаньнем слова "гаспадар", у якім адкінены чамусьці толькі першы склад "га". З такім самым, а можа і лепшым посьпехам можна было-б адкінуць два першыя склады із слова "гаспадар" і тады засталася-б толькі "дар" /гэтае апошняе было-б падобнае да ангельскага слова "Dear", якое ужываецца пры зваротах супольна із словам "Sir"-"Dear Sir" што азначае у гэтым выпадку паважаны пане, хоць слова "Dear" фактычна азначае "дарагі" /у сэнсе "дорага"/ і у сэнсе "любы", "мілы".

Ясна, што такое адвольнае ампутаваньне словаў і тварэньне з іх новых словаў абсалютна нічым неабаснавана, бо-ж такім чынам можна было-б умовіцца называць рэчы пэўнымі чыста умоўнымі словамі ці нават гукамі і такім чынам стварыць нейкую штучную няіснуючую мову. На такі фактычна шлях і стаў гэты "наўчоны спадар", які, хочучы зьвярнуць на сябе увагу сваім дзівацтвам, выдумоўвае розныя недарэчныя "хормы", якія і зьмяшчае час ад часу крывіцкая газэта "Бацькаўшчына у сваім "кутку сьмеху".

Паводле таго-ж "наўчрнага спадара"-Янкі Станкевіча "галава" павінна па беларуску называцца "думалка", а "нос"-"нюхаўка" і да г.п. У № 31, напр., "Бацькаўшчыны" з дня 29.7.56 Янка Станкевіч ужывае слова "працавень" замест "працаўнік", дык тады па аналёгіі у Янкаўскай мове будзе "кіравень" замест "кіраўнік", "майстравень" замест "майстар" і т.п. недарэчнасьці.

Не знаючы добра расейскае мовы, у якой побач слова "государь" пры звароце /напрыклад "Милостивый государь"/ ужываецца і скарочанае слова "судар", Янка Станкевіч рашыў, што адкінуўшы першы склад у беларускім слове "гаспадар" можна ужываць слова "спадар". Дык вось-жа,- па-першае: ра-

сейскае слова "судар" ня ёсьць раўназначна з словам "государ", а зьяўляецца як-бы пагардлівым, а нават абразьлівым адпаведнікам яго. Калі расейцы хочуць зьвярнуцца ветліва і з пашанаю, дык яны ужываюць "Милостивый государь" ці "Милостивая государыня", калі-ж да нейкага зварочваюцца з пагардаю дык кажуць: "Это те, сударь, даром не пройдет!". Для Янкі Станкевіча, гэты адценак расейскае мовы, відаць, незразумелы і таму ён з упорыстасьцяй, характэрнай для такога "навучонага" увесь час стараецца ужываць недарэчны зварот; па-другое: расейская мова "государь" азначае фактычна "уладар", "цар", ніколі не ужываецца у значэньні-"собсьнік" як гэта пераважна у сучасны мамэнт ёсьць у беларускай мове з словам "гаспадар". Тое, што у нас называецца "гаспадаркаю", "гаспадаром" /з націскам на апошнім складзе/ па расейску будзе: "хозяйство" і "хозяин". Праўда,у старасытнасьці у беларускай мове ужываўся тытул "гаспoдар" / з націскам на другім складзе/, але пераважна у адносінах да "князя", хоць і у гэтым выпадку фактычна меў значэньне - "собсьніка", да якога належала дадзеная тэрыторыя ці тая або іншая гаспадарка. Множны лік аднак аднак ад гэтага слова, ужыванага, як зварот, будзе іншы, як ад слова "гаспадар" у значэньні расейскага "хозяина". Множны лік будзе не "гаспадары" /з націскам на апошнім складзе/, а "гаспадары" / з націскам на перадапошнім складзе/. Адсюль можна сказаць "Міласьцівыя гаспадары". Аднак, усе гэтыя разважаньні аб старадаўным ужываньні гэтага тэрміну, зьяўляюцца фактычна толькі чыста тэорэтычнымі, бо аднак у жывой народнай мове, а так-жа і у літаратуры такога звароту мы не спатыкаем.

З гэтага, зразумела яшчэ нельга рабіць высnаву, што такі зварот будзе недарэчным, бо-ж тое, што тэрмін "гаспадар" азначае аднчасна ў большасьці выпадкаў "собсьніка"- "хозяина" ня вынікае, што яго нельга ужываць у значэньні расейскага "господина", або "пан" ці нямецкага " ". У доказ таго, што гэтая акалічнасьць не мяшае ужываньне такога звароту сьведчыць факт з народнае беларускае мовы: нашыя беларускія сяляне на усім прасторы беларускае этнаграфічнае тэрыторыі ужываюць у звароце да роўных сябе тэрмін "дзядзька", не зважаючы на тое, што гэтае-ж слова азначае і кроўнае радство - г. зн. брат бацькі ці маці.

Калі я зазначыў вышэй, што такія нашыя разважаньні адносна ужываньня пры звароце тэрміну "гаспадар" "гаспадарыня", як адпаведнікі вясковым зваротам "дзядзька" і "цётка" будуць толькі тэарэтычнымі, ды толькі таму, што такая санкцыя павінна-бы быць зроблена беларускай акадэміяй навук, прынята усімі паэтамі і пісьменьнікамі ды праведзена праз школы. Дагэтуль, аднак, мы ня маем ані такое санкцыі нашай акадэміі навук, ані не ужываецца гэты зварот нашымі

пісьменьнікамі і паэтамі нават чыста "партызанскім" спосабам.

З вышпададзеных меркаваньняў я адношуся нэгатыўна ня толькі да ужываньня звароту "спадар", які абсалютна на нічым не абаснаваны, але адношуся з сасьцярогаю і да звароту "гаспадар".

2. У сувязі з гэтым паўстае пытаньне які-ж мы павінны ужываць зварот? Адказ будзе просты: такі, які ужываецца у народных масах або у нашай літаратуры. А такімі зваротамі будуць: "Дзядзька", "цётка" /як пераважна сялянскія звароты/ або "пан"- зварот, які ужываецца ува усёй нашай ня толькі адраджэнскай, але і навейшай літаратуры, а які, між іншым, усанкцыяваны Беларускай Акадэміяй Навук ды прыняты у ваўсіх нашых школах на бацькаўшчыне. У Русско-белорускім слоўніку Акадэміі Навук БССР, выдадзеным пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі /выданьне 1953 г./ на бал. 102 пад словам "господин" /у розных значэньнях/дадзены адпаведнік - "пан" /пры звароце у множным ліку - "панове" /. Пад знакам для ідіомаў г.зн. для выражэньняў, характэрных для беларускае мовы тут-жа пададзены такія прыклады: "сам сабе пан","гаспадар становішча" і "гаспадар свайму слову".

Як бачым, з гэтага вынікае, што Акадэмія Навук БССРсанкцыянавала ужываньне пры зваротах ня толькі словаў "пан", "панове", але адначасна падкрэсьліла ж ужываньне слова"гаспадар", але н і у я к і м в ы п а д к у "спадар".

Як-бы мы не заглядаліся на тое, што творыцца у сучасны мамэнт у нашай бацькаўшчыне, якая бязумоўна знаходзіцца пад чужою акупацыяй, аднак мы павінны лічыцца з фактам, што ужо цэлыя пакаленьні ўзгадованы на агульна-прынятых там нормах, а моладзь вучыцца па тых-жа нормах у ваўсіх школах. З гэтага пункту гледжаньня усякая "адсебяціна" жменькі крывіцкіх выкалеенцаў на чале з іхнім "научоным спадаром"- Янкам Станкевічам ня толькі сьмешная і недарэчная,але нават і шкодная, бо толькі непатрэбна засьмечвае беларускую мову.

Ані нашыя літаратары на бацькаўшчыне, ані паэты,ані пісьменьнікі, ані публіцысты, ані шырокія народныя масы н я у ж ы в а л і, н я у ж ы в а ю ц ь і н а п э ў н а н я б у д у ц ь у ж ы в а ц ь "дзівосы" і "сьмяхоты" Я н к і С т а н к е в і ч а ды усяго з ім крывіцкага сінэдрыёну.

Гэта факт, які павінен перасьцерагчы нашую эміграцыю ад недарэчнага засьмечваньня нашае эміграцыйнае літаратуры і адначасна асьмешваньня сябе.

Тое, што ніякая лёгіка ня дзеець на тыпаў, падобных Янку Станкевічу, яшчэ ня можа служыць падставаю для іншых.

Янка Станкевіч, як ведама, няраз выкідваў у мінулым такія антыграмадзкія штучкі, за якія пры існаваньні сваё дзяржавы ён быў-бы падданы агульнаму байкоту, а можа апы-

нуўся-б і ў доме для варьятоў. Мне некалі расказваў Антон Луцкевіч як той самы Янка Станкевіч спараліжаваў выданьне неабходных падручнікаў у беларускай мове для беларускіх школаў. Гэта было ў 20 гадох, Віленскае Навуковае Таварыства хацела выдаць арытмэтыку ў беларускай мове для якое мэты быў перакладзены на беларускую мову падручнік арытмэтыкі Цынглера. Спэцыяльная тэрмінолёгічная камісія Навуковага Т-ва, у склад якое, між іншым, уваходзіў і Янка Станкевіч, апрацавала беларускую арытмэтычную тэрміналёгію, з якою Я. Станкевіч не згаджаўся. Прыймаючы пад увагу, што бальшыня камісіі, аднак, прыняла яе вышазначаны падручнік арытмэтыкі друкаваўся згодна з прынятай тэрміналёгіяй. Калі была гатова да друку ўся кніжка і зроблена апошняя карэкта, Янка Станкевіч зьявіўся ў друкарню вечарам, перапраівіў усю карэкту пасвоему і загадаў зараз-жа пусьціць набор на машыну. Сам сядзеў цэлую ноч у друкарні, пільнуючы, каб увесь друк быў закончаны. Раніцою сеў у цягнік і уцёк у Прагу Чэскую. Такім чынам Навуковае Т-ва было пастаўлена перад дакананым фактам надрукаваньня падручніка арытмэтыкі з дзівачнаю Янкаўскай тэрміналёгіяй, на што, зразумела, для сваёй павагі Нав. Т-ва згадзіцца не магло. Прышлося ўвесь надрукаваны матар'ял аддаць на макулятуру, а прыймаючы пад увагу, што ня было грошай на закуп новай паперы, падручнік так і ня убачыў Божага сьвету.

Аб другім вычыне таго-ж "лінгвіста" Я. Станкевіча расказаў мне студэнт Віленскага Ун-ту Альбэрт Мільлер, які ў 1930 годзе быў сакратаром Віленскае Беларускае Вучыцельскае сэмінарыі імя Ф. Багушэвіча. Дырэктарам сэмінарыі быў гасп. Р. Астроўскі, якому і даручыў Куратар Віл. Шк. Вокр. падабраць адпаведны пэрсанал. У канцылярыю сэмінарыі, якая мясьцілася тады на Віленскай вуліцы №3, зьявіўся Я.Станкевіч і прасіў дырэктара ўзяць яго за выкладчыка беларускае мовы. Дырэктар гасп. Астроўскі, добра ведаючы дзівацтвы Я. Станкевіча не ахвотна прыняў яго прапанову. Аднак, прыймаючы пад увагу цяжкое матар'яльнае становішча пэтэнта, аб якім ён расказаў дырэктару, апошні, па дабраце сваёй, згадзіўся прыняць яго вучыцелем беларускае мовы, аднак засьцярогся, каб Станкевіч прытрымліваўся пры выкладаньні агульнапрынятае граматыкі Б. Тарашкевіча. Станкевіч абяцаў.

На першым паседжаньні пэдагагічнае Рады сэмінарыі ўкладаўся алфавітны сьпісак прынятых вучняў на першы курс. Тут Я. Станкевіч запрапанаваў, каб вучняў упісваць у клясовы журнал зьбеларушчанымі прозьвішчамі. Першы па сьпіску быў вучань Аляхновіч, а другою вучаніца Божко. Янка Станкевіч запрапанаваў першага запісаць Аляхноўчык, а другую Божчышкай. Пры наступным разглядзе трапілася прозьвішча Кот, якога Я. Станкевіч налягаў запісаць Кацюком. Ясна гэтая абсурдальна-небясьпечная прапанова пэдагагічнаю радаю была

адкінена, прычым Я. Станкевічу зварочвалася увага, што па-першае: школа абавязана запісваць вучняў тымі прозьвішчамі якія яны маюць у сваіх мэтрыках нараджэньня, па-другое: такая прапанова акром таго і небясьпечная для саміх вучняў, бо-ж Аляхноўчык, Божчышка і Кацюк не маглі-б атрымаць спадчыны па сваіх бацьках, якія маюць зусім іншыя прозьвішчы. Ясна, ніякія лёгічныя довады на Янку Станкевіча не падзеялі і ён застаўся пры сваём. Паседжаньне зацягнулася да поўначы. Нарэшце, утомленая недарэчнымі спрэчкамі з Я. Станкевічам, Пэд. Рада разышлася, а дырэктар загадаў сакратару Міллеру упісаць у куратарскі журнал прозьвішчы вучняў так, як яны значацца у іх мэтрыках. У вучыцельскім пакою застаўся толькі Янка Станкевіч, які усё яшчэ разглядаў дакумэнты вучняў. Міллер пастанавіў таксама пайсьці спаць, а сьпісак напісаць заўтра раніцою перад заняткамі. І вось, неспадзеўка: калі Міллер прыйшоў назаўтра у канцылярыю, то з зьдзіўленьнем пабачыў, што у журнал ужо упісаны рукою Я. Станкевіча усе вучні з такімі прозьвішчамі, якія надаў ім Станкевіч.

Прыйшлося ісьці у кураторыюм і прасіць новы журнал, бо-ж пакінуць такія дзівацкія прозьвішчы Пэд. Рада не згадзілася.

Што-ж датычыць ужываньня некаторымі асобамі слова "спадар", дык гісторыя яго такая: У БССР ужывалася выключна слова "таварыш", якое падчас нямецкае акупацыі трэба было нечым замяніць. Слова "гаспадзін" было-б русіцызмам, а слова "пан", як шмат хто думаў было-б палянізмам. Таму, відаць, беларусы з БССР пастанавілі на скорую руку увесьці гэты недарэчны Янкаўскі зварот.

Ці, аднак, засьцярогі адносна слова "пан" слушныя і істотныя? Бязумоўна не. Па-першае: "пан" у значэньні "абшарніка", які валодаў-бы вялікім маёнткам ды эксплёатаваў-бы сялянаў, ужо даўно зьнік з паверхні Беларусі і для новага пакаленьня ён ня можа прыпамінаць "пана", як абшарніка: па-другое: украінцы ня менш дбаюць аб чысьціню свае мовы, аднак ужываюць словы "пан" заўсёды пры зваротах да знаёмых ці незнаёмых людзей, не баючыся, што гэтым засьмечваюць сваю мову палянізмамі, па трэцяе: у старадаўных беларускіх дакумэнтах мы якраз спатыкаемся з такім зваротам, як "паны-Рада", дзе "паны" якраз не зьяўляюцца толькі абшарнікамі, а гэтае слова ужываецца да усіх, як звычайны ветлівы зварот.

Усё гэта дае мне падставу прапанаваць ужываць пры ветлівых зваротах слова "пан", або "гаспадар", як санкцыянаваныя Вышэйшай Навуковай Установай Беларусі ды ужываныя шырака у ваўсёй беларускай літаратуры і беларускімі народнымі масамі.

Цімох Саладуха

Ірляндыя, Верасень 1956 г.

# УЧОРА І СЕНЬНЯ

У №6/27/ "Аб'еднаньня" з чэрвеня 1950 году быў зьмешчаны артыкул пад загалоўкам "Крывіцкая Банда" наступнага зьместу:

"Як нас паведамляюць з Бэльгіі, у Сяброўскі Суд пры Беларускім Студэнцкім Згуртаваньні у Лювэне, паступіла абвінавачаньне Вітаўта Кіпеля супроць Барыса Рагулі, Уладзімера Набагеза, Аляксея Арэшкі і Вітаўта Рамука - студэнтаў Лювэнскага Унівэрсытэту, якія заманілі Кіпеля у пакой Набагеза і замкнуўшы на ключ дзьверы яго набілі.

Із акту абвінаваччаньня вынікае, што у канцы сьнежня прошлага году, каля восьмай гадзіны вечарам, прыйшоў да Кіпеля Арэшка і прасіў яго зайсьці у пакой Набагеза, дзе быццам чакаў яго Рагуля для абгаварэньня аднэй справы. Калі Кіпель, нічога не падазраваючы, увайшоў у вызначаны пакой, дык там ужо знаходзілася шэсьць чалавек: Набагез, Рагуля, Арэшка, Рамук, ды яшчэ два ня студэнты: Іван Лабоўка і Мікалай Шуст. Як толькі Кіпель зачыніў за сабой дзьверы, падбег Набагез і замкнуў іх на ключ. У гэты мамэнт праходзіў па сходах студэнт Янка Жытка і чуў лязг ключа, нічога, аднак, не падазраваючы, прайшоў міма. Тымчасам за дзьвярыма, Рагуля, маючы пэўнасьць, што Кіпелю ніхто ня можа прыйсьці на помач, ударыў яго два разы па твары. Кіпель скочыў бараніцца, але пры Рагулі ужо стаялі Набагез і Арэшка з паднятымі кулакамі, дый Рамук з Лабоўкам і Шустам толькі і чакалі мамэнту, каб на яго кінуцца, калі-б ён пачаў бараніцца.

Кіпель просіць Сяброўскі Суд укараць віноўных, а Рагулю, як арганізатара нападу - выключыць із Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня. Столькі аб цэлым здарэньні у акце абвінавачаньня.

Нам, аднак, удалося даведацца крыху бліжэй аб акалічнасьцях, у якіх узрадзілася цэлае здарэньне. Паводле расказаў Лювэнскіх студэнтаў, у суботу перад каталіцкімі калядамі Лювэнскія крывічы устраівалі урачыстую куцьцю, на якой таксама быў прысутны і Кіпель. На гэтай урачыстасьці Б. Рагуля, дыскутуючы са студэнтамі на палітычныя тэмы, абзываў сваіх палітычных праціўнікаў дывэрсантамі і сволачамі. Хоць выступленьні Рагулі былі яўна правакацыйнымі, аднак ані Кіпель, ані іншыя студэнты, якія не падзялялі ягоных поглядаў, не зьвярнулі на гэта большай увагі, бо усе ужо былі моцна падпіўшы. Праз пару дзён, таксама пры бутэльцы, хоць гэтым разам у меншай кампаніі, выведзены з цярпеньня Кіпель назваў Лювэнскіх крывічоў "крывіцкай бандай", - якая распаўсюджвае сярод каталіцкіх кругоў г. Лювэну ілжывыя весткі аб нашых нацыянальных дачыненьнях і перашкаджае уезд

у Бельгію лепшым беларускім студэнтам. Словы Кіпеля ня выклікалі тады у прысутных крывічоў ня толькі ніякае рэакцыі, але ніхто із іх ня чуўся абражаным, бо усе разышліся у добрай згодзе, і толькі праз тры дні, пасьля шматлікіх нагавораў і пераконаньняў, удалося Рагулі сарганізаваць сваю банду для пабіцьця Кіпеля.

Тут трэба адзначыць, што Кіпелю толькі 22-гі год, а Рагулі і іншым удзельнікам банды, за выняткам Арэшкі, мінула ужо 30-ка.

Цэлае гэта здарэньне вельмі добра характарызуе Любэнскую крывіцкую банду. З аднэй стараны нагласьць і хвараблівае польска-шляхоцкае панянцьце гонару, а з другой - трусасьць, падшытая подласьцю. Ніхто з іх ня меў адвагі спаткацца адзін на адзін з Кіпелем, бо Кіпель, хоць і наймаладзейшы із цэлай групы, патрапіў-бы, аднак, бараніцца як кожны дарослы мужчына. Дый з двумя ці трымя крывічамі ён мог-бы справіцца. Аб гэтым добра ведаў Рагуля і ягоныя аднадумцы. І вось таму трэба было сарганізаваць шэсьць мужчынаў, подступам заманіць туды Кіпеля, замкнуць дзьверы, каб паказаць сваю крывіцкую адвагу. І пасьля гэтага адгрызаньне Рагулі супроць пазбаўленьня яго афіцэрскай рангі - ці-ж не выдаецца наглым і сьмешным. Ня толькі годнасьць афіцэра, але годнасьць студэнта, нават каталіцкага унівэрсытэту, да нечага абавязвае".

АД РЭДАКЦЫІ:

Пасьля прачытаньня гэтых радкоў, нейк ня верыцца, што апісанае тут здарэньне "было прыватным дробным дэталям студэнскага жыцьця", як хоча перакапаць нас цяпер др. Вітаўт Кіпель у сваім пісьме, зьмешчаным у "Бацькаўшчыне". Дый сам ён, 6 год таму назад, меў іншы погляд у гэтай справе: гэты "намёк" на зьмену палітычных поглядаў у форме біцьця па твары ён не уважаў дэталем, але крымінальным праступкам, і на другі дзень, пасьля выпадку у пакоі Набагеза, ён заявіў аб гэтым у паліцыю, а пасьля перадаў справу у Сяброўскі Суд.

Цяпер, аднак, пасьля шасьці гадовага перауздгадваньня у Любэнскім інтарнаце, ён хоча перапанаць нас, што у Любэне пануе "хрысьціянская любоў", што там ня толькі ня было націску, але нават намёку на зьмену рэлігіі ці палітычных перакананьняў.

Што-ж, часы зьмяняюцца, зьмяніўся і Кіпель, толькі рымская палітыка у дачыненьні да праваслаўных застаецца тая самая.

- 0 -

П Р А Ч Ы Т А У Ш Ы - П Е Р А Д А Й С Я Б Р У !

# РЭЗАЛЮЦЫІ І-ШАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ КАНАДЫ І ЗША У ТОРОНТО У ДНІ І-га І 2 ВЕРАСЬНЯ

Ягонай Міласьці
Прэм'ер-Міністру Канады
Гасп. Луі Сан-Лорэн
у Аттаве

Гаспадару Прэзыдэнту ЗША
Двайту Айзэнгаўвэру
у Вашынгтоне

I.

І-шая Канфэрэнцыя Прадстаўнікоў Беларускіх Арганізацыяў Канады і ЗША у Торонто, перасылае ад імя Беларускіх этнічных групаў Канады і ЗША, якіх прадстаўнікамі нашыя арганізацыі зьяўляюцца, словы падзякі, за апеку, якую атрымала беларуская эміграцыя у Канадзе і ЗША ратуючыся ад чырвонага Маскоўскага захопніка паняволіўшага Беларусь. Прыракаючы сваю супрацу у абароне волі, дэмакратыі і незалежнасьці свае новае бацькаўшчыны, Канфэрэнцыя Беларускіх Арганізацыяў просіць урады Канады і ЗША прыняць адпаведныя захады дзеля вызваленьня паняволеных камуністычнай Масквой народаў, у тым ліку і Беларусь. Пакуль ня будуць вызваленыя народы паняволеныя камуністычным расейскім імпэрыялізмам, датуль ня можа быць сталага міру на сьвеце. Палітыка коэкзыстэнцыі, зьяўляецца палітыкай згоды на паняволеньне дзесяткаў народаў і узмацненьня імпэту камуністычнай тыраніі у яе імкненьнях да зьнішчэньня усяго вольнага дэмакратычнага сьвету.

II

І-шая Канфэрэнцыя Прадстаўнікоў Беларускіх Арганізацыяў кляймуе здраду пастановаў Акту 25 Сакавіка аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспубліцы, з боку групы асобаў пайшоўшых дзеля грашовых выгодаў на "неперадрашэнства" г. зн. на згоду вырачэньня абвешчанай Першым Усебеларускім Кангрэсам у 1918 годзе і пацьверджанай Другім Кангрэсам у 1944 годзе Незалежнасьці Беларусі.

III

І-шая Канфэрэнцыя Прадстаўнікоў Беларускіх Арганізацыяў Канады і ЗША сьцьвярджае неабходнасьць сьціслай супрацы, як на палітычна-вонкавай дзелянцы, гэтак сама і нутраным адрэзку беларускага жыцьця у справах культурных і грамадзкіх усіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў, стоячых на грунце Акту 25 Сакавіка.

Падпісана ад імя арганізацыяў прымаўшых удзел у Канфэрэнцыі:

За Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне у Канадзе
/-/ Б.Сладкоўскі — Старшыня
/-/ Я.Баброўскі — Сакратар

За Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт у ЗША
/-/ Лянгіна Брылеўская

За Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне /БАЗА/ у Кліўлендз
/-/ Млатушкін Старшыня
/-/ А. Сацэвіч віцэ-старшыня

За Беларуска-Амэрыканскую Нацыянальную Раду у Чыкаго/ЗША/
гэн. М. Дзямідаў - упаўнаважаны

За Беларуска-Амэрыканскае Студэнскае Згуртаваньне у/ЗША/
/-/ К. Вайцяхоўскі

За Фэдэрацыю Вольных Беларускіх Журналістаў
/-/ С. Хмара

За Літаратурную Сустань "Баявая Ускалось"
/-/ Алесь Змагар

- 0 -

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА МАСКВЫ

Нацыянальная палітыка камуністаў вельмі хітрая правакацыйная і адначасна - ня менш подлая. Ведаючы добра нацыянальныя пачуцьці усіх падбітых расейцамі народаў, камуністы навонкі і фармальна праклямавалі поўную нацыянальную свабоду для усіх народаў з невялічкаю толькі засьцярогаю, што нацыянальная культура павінна быць нацыянальнай толькі па сваёй форме, а камуністычнаю па зьместу. Адначасна з гэтым яны патварылі так званыя нацыянальныя рэспублікі, якім фармальна у Сталінскай канстытуцыі гарантавалі ня толькі абсалютную свабоду у вырашэньні дзяржаўных праблемаў, згодна з так званым "самаопределением", але нават права выйсьці із складу Савецкага Саюзу. Як гэтая "свабода" выглядае ў СССР у сапраўднасьці мы добра ведаем, бо-ж "падтрымліваючы" нацыянальную свабоду для усіх паняволеных народаў, бальшавікі адначасна сыстэматычна вынішчалі усю сьвядомую нацыянальную інтэлігэнцыю нерасейскіх народаў, абвінавачваючы яе у так званым нацыянальным дэмакратызме.

Такім чынам, камуністам удалося перш на гэтую нацыянальную прыманку перацягнуць на свой бок шырокія масы паасобных народаў з тым, каб пазьней, абязброіўшы іх з свае нацыянальнае інтэлігэнцыі, падсоўваць ім сваіх эмісараў насыланых з цэнтральных прастораў РСФСР. Зразумелая рэч, што насланыя бальшавіцкія расейскія эмісары не маглі быць праваднікамі нацыянальнае культуры паасобных народаў, бо-ж аб

ей ня мелі ніякага пайма ды ім аб гэта і нехадзіла. У сувязі з гэтым па пляну Масквы пачалася у ваусіх рэспубліках сыстэматычная русыфікацыя усіх нерасейскіх народау. Кожны-ж пратэст з боку нацыянальных прадстаунікоу кваліфікавауся як нацыянальна-дэмакратычны ухіл і яны бязлітасна вынішчаліся. Так выглядае нацыянальная палітыка і у сучасны мамэнт унутры СССР.

Зусім інакш адносяцца бальшавікі да нацыянальнага пытаньня паняволеных народау за межамі СССР. Якія-б ня былі нацыянальныя рухі у іншых краінах і якую-б яны ня мелі сацыяльную падкладку /сацыялістычную ці нават фашыстоускую, або манархістычную/ Масква заусёды гэтыя рухі ня толькі падтрымлівае маральна, але нярваз і матар'яльна, інфільтруючы у склад дзейнага нацыянальнага актыву сваіх агентау.

Падтрымка Масквою Насэра і кіпрыйцау, а тым самым і увесь нацыянальны егіпецкі і грэцкі рух служыць найлепшым доказам вышсфармуляванае намі нацыянальнае палітыкі Крамля.

Тое, фактычна, самае мы наглядаем нават і у так званых саталітных камуністычных краінах, дзе бальшавікі ня упэунены у шчырасьці да Масквы з боку саталітных камуністау.

Аднэю з такіх краінау, дзе ня толькі шырокія народныя масы, але і самі камуністы крывавым вокам глядзяць на расейцау, ёсьць бязумоуна Польшча. Масква і тут прымяніла тую самую хітрую тактыку, выкарыстоуваючы для гэтай мэты беларусау і украінцау, як нацыянальныя мяншыні Польшчы. Не бяз удзелу Крамля, напр., у Беласточчыне ажывіуся беларускі нацыянальны рух, а на Валыні - украінскі.

Прымаючы пад увагу, што ані беларусы, ані украінцы не забылі яшчэ той нацыянальнай "свабоды", якой яны карысталіся у так званай "дэмакратычнай" перадваеннай Польшчы, дык зразумелая рэч, што Масква вельмі лёгка можа іх выкарыстаць супроць цяперашняй камуністычнай Польшчы, калі апошняя акажацца ня вельмі паслухмянай загадам Масквы.

В.А.

ЦАНА ЧАСОПІСУ "АБ'ЕДНАНЬНЕ" ЗА №.

| | | | |
|---|---|---|---|
| У Вяліка-Брытаніі | I шылінг | У Аустраліі | I/6 пэнау |
| У США і Канадзе | 30 цэнтау | У Нямеччыне | 60 фэнігау |

" РЭДАГУЕ ГАЛОУНАЯ УПРАВА ХАБР У ЛЕНДАНЕ "

Адрас Рэдакцыі: U.Ch.B.W. 57,Cathnor Rd.,LONDON,W.12.